


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 30 (1117) ГОД XXII БЕЛАСТОК 24 ЛІПЕНЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.




*Цэнтр горада. Справа помнік Героям Беласточчыны.*

# БЕЛАСТОК 2000 года

Прапануюсёння крыху памарыць аб будучыні Беластока, горада, які ў нашых сэрцах выклікае самыя лепшыя пачуцці, да якога вяртаюцца думкі ўсіх нашых землякоў, дзе б яны не былі.

Пад канец чэрвеня адбылася ў Беластоку папулярна-навуковая канферэнцыя, прысвечаная перспектыўнаму развіццю нашага горада. Спецыялісты па планаванню, будаўнікі, архітэктары і грамадскія дзеячы імкнуліся выпрацаваць супольнае ўяўленне гарадскога арганізма Беластока аж да 2000 года. Прыйшлі яны да вываду, што пад канец нашага веку ў межах Беластока апынуцца многія навакольныя вёскі і гарадскія пасёлкі, якія размешчаны ў радыусе 25-30 кіламетраў ад цэнтра. Складуць яны так званую Беластоцкую агламерацыю. З гэтага вынікае, што, для прыкладу, Лапы, Чорная Беластоцкая, Васількаў, Супрасль, Хорашч, Юхновец, Сураж, Заблудаў і акружаючыя іх вёскі стануць проста прыгарадамі Беластока.

Дарэчы, гэта гістарычная правідловасць яго развіцця. Цяперашнія кварталы Старасельцы, Сточак, Агароднічкі ў недалёкім мінулым састаўлялі так званую беластоцкую маёмасць і былі самастойнымі фальваркамі. Пячуркі, Баяры і Скарупы знаходзіліся ва ўладанні князёў Радзівілаў, Дайліды, Крывое, Дайнова і Крыўляны цярпелі прыгнёт магнацкага роду Любамірскіх. Фасты і Бацечкі працавалі на ўтрыманне базыльянскіх манахаў.



*Вуліца Ліповая.*

Таму Беласток аж да нашых дзён астаўся своеасаблівым кангламератам даўнейшых вёсак. 45 працэнтаў насельніцтва яшчэ сёння жыве ў прыватных дамах. І толькі ў апошнім дзесяцігоддзі драўляная, тыпова вясковая забудова памалу адступае пад націскам сучаснага шматпавярховага будаўніцтва.

Беласток сваё пасляваеннае жыццё пачынаў амаль з нуля. Гітлераўцы яшчэ ў першыя дні акупацыі спалілі амаль цэлы сённяшні цэнтр горада. Затым у час ліквідацыі яўрэйскага гета дапоўнілі сваю варварскую місію. Яшчэ ў 1946 годзе (калі я ўпершыню пабываў у Беластоку) не было ані следу з таго, што мы сёння называем беластоцкай „Старуўкай“. Людзі хадзілі па горах развалін. Аб гэтым нельга забываць, калі марым аб светлай будучыні нашага горада.

Беласток двухтысячнага года мае быць крыху больш чымсьці трохсоттысячным горадам. Калі аднак дабавіць насельніцтва ўсіх вёсак і пасёлкаў, якія апынуцца ў яго межах, тады Беластоцкая агламерацыя будзе налічваць 400-420 тысяч пастаянных жыхароў.

Прадбачваецца, што асобныя прыгарады Беластока атрымаюць сваю „спецыялізацыю“. Аб развіцці Лап, Чорнай Беластоцкай і Васількова перш за ўсё мае вырашаць прамысловасць.

Прамысловыя кварталы Беластока — гэта Высокі Сточак, Новае Мяста, Ба-

(Працяг на стар. 2)

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# Гайнаўскія традыцыі

Калі ў Гайнаўскім музеі рэвалюцыйнага руху зволына пераходзіш ад стэнда да стэнда, ад аднаго экспаната да другога ды ўважліва ўглядаешся ў здымкі і ўчытваешся ў надпісы, перад табою паўстаюць ва ўсёй сваёй велічы бурлівыя падзеі, што разгортваліся ў гэтым невялікім мястэчку і яго ваколіцах у XX стагоддзі. І табой авалодвае глыбокі роздум.

Вось стэнд з дакументамі Якуба Мартынюка з Новаберазова — вядомага матроса-артылерыста са славутага крэйсера „Аўрора“: пасведчанні аб вайсковай службе, ордэны, медалі, а над імі вялікае фота героя, што, выпускаючы на Зімовы палац снарадны залп, адкрываў новую эпоху не толькі для народаў Расіі ці Еўропы... На здымку дзядулю Якуба ласкава абдымае за шыю яго ўнук. Гэты абразок фатограф улавіў са штодзённага сямейнага жыцця, а ён прамаўляе да нас як многазначны сімвал пераемнасці пакаленняў у няспынным змаганні за лепшае заўтра ў рэвалюцыйнай барацьбе, ці ў мірнай стваральнай працы.

Гэта ж пакаленне Якуба Мартынюка, разбуджанае на подзвіг ідэямі Вялікага Кастрычніка і загартаванае ў баях Грамадзянскай вайны, вярнуўшыся на родную Гайнаўшчыну і апынуўшыся тут у цісках класавай несправядлівасці і бязвыхаднай галечы, адразу ўзялося працягваць барацьбу за ажыццяўленне ленінскіх ідэй у сваім хутары, сяле, мястэчку. Рознымі спосабамі і шляхамі. Адзін з іх — гэта ўзброеная партызанская барацьба. Як паведамляла вельмі кароткая тадышняя газетная нататка, 24 мая 1922 года па прысуду Беластоцкага акруговага суда Андрэй Тамашук з Дубіч Царкоўных, Іван Сахарчук з Залешанаў, Іван Піцэлюк з Маскоўцаў і Дзям'ян Мартынюк былі пакараны расстрэлам, а Васіль Тамашук укінуты пажыццёва ў турму за тое, што яны выканалі смяротны рэвалюцыйны прысуд у Кляшчэлях на злачынцах і здрадніках. І не дзіва, што ў вёсках вакол Белавежскай пушчы яшчэ і сёння жыве легенда аб чырвоным партызане — зуху Мусе, які караў злачынцаў-прыгнятальнікаў і ўспамагаў беднякоў.

Змяняліся часы — змяняліся формы барацьбы, але ніколі не згасала яна ў гэтых мясцінах. У палове дваццатых гадоў на Гайнаўшчыне паўстала густая сетка ячэек Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, гурткоў Сялянска-рабочай Грамады, арганізацый Незалежнай сялянскай партыі, а ў рабочым асяроддзі таксама — Польскай сацыялістычнай партыі і класавых прафесіянальных саюзаў. Забастоўкі галодных, мітынгі беспрацоўных, паходы пакрыўджаных і патаптаных — упісваліся ў штодзённую барацьбу працоўных Гайнаўшчыны. Змагаліся плячо ў плячо ў непарыўнай еднасці беларус Якуб Базылюк з палякам Эдвардам Грыневічам і яўрэем Мэерам Аляхоўскім. Інтэрнацыянальнае братэрства нараджалася, пашыралася і мацнела ў цяжкай працы, узаемнай дапамозе ў нястачах, салідарнасці ў забастоўках, нязломнасці ў часе катаванняў у бельскай дэфензіве, сяброўстве ў камеры пры адбыванні шматгадовых прысудаў

(Працяг на стар. 2)

# ГАРАДОК З КРЫЖАМ ГРУНВАЛЬДА

У пачатку мая было ўжо вядома, што Рада Дзяржавы па прапанове Палітбюро Цэнтральнага Камітэта ПАРП прысвоіла гміне Гарадок Ордэн Крыжа Грунвальда III ступені. Гарадок апынуўся сярод 30-ці іншых мясцовасцей нашай краіны, якія ў гэтым годзе сустрэла гэтае высокае прызнанне.

У пастанове Рады Дзяржавы спецыяльна адзначаецца, што Ордэнам Крыжа Грунвальда ўзнагароджваецца патрыятызм насельніцтва, яго самаахвярнае змаганне з гітлераўскімі захопнікамі барацьбу за перамогу і ўмацаванне народнай улады ў нашай краіне.

Барацьбу і пакутніцтва жыхароў Гарадоцкай гміны ўвекавечваюць сёння скромныя помнік і абеліскі. Ёсць яны

(Працяг на стар. 4)



*У светлых прасторных цэхах „Каро“...*

ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

(Працяг са стар. 1)

# Гайнаўскія традыцыі

у Картуз-Бярозе, Беластоку, Равічы. Не выпадкова Гайнаўка займела назву „чырвонай“. У рэакцыянераў і цемрашалаў гэтае слова выклікала раз’юшанасць і прагу „карчаваць бальшавіцкую заразу“ пагромамі, як з’езд Грамады ў Старым Беразове, ці стрэламі, як забойства паліцыянтам рабочага Яна Верпахоўскага ў Гайнаўцы. У той жа час назва „чырвоная“ заахвочвала працоўных да новых змаганняў за класавую справядлівасць і грамадскі прагрэс, было яўным прызнаннем моцы гэтых барацьбітоў.

І колькі годнасці і павагі можна вычытаць на тварах на здымку членаў атрада Чырвонай Гвардыі з вёскі Шастакова. Чырвонагвардзейцы пасля адыходу ў верасні 1939 года санацыйных уладаў узялі ў свае рукі бяспеку аднавяскоўцаў! Гэтае ж пачуццё здзейсненых ідэй народаўладдзя не цяжка заўважыць на тварах групы дэпутатаў ад Бельскага павета на Народны Сход Заходняй Беларусі ў Беластоку ў кастрычніку 1939 года.

Не маглі мець і не мелі тут салодкага жыцця гітлераўскія акупанты і іх прыслужнікі. Хоць абярнулі яны ў попел і вуголле ўсе вёскі навокал Белавежскай пушчы і замучылі або расстралялі звыш 1100 чалавек, усё ж не здолелі яны кінуць на калені тутэйшых людзей. Ужо ў месяц пасля прыходу акупантаў паўстаюць тут антыфашысцкія камітэты і партызанскія атрады. У шэрагі народных мсціўцаў становяцца сотні людзей. Атрады: імя Кутузава, Пархоменкі, Хмяльніцкага, Дзяржынскага і іншыя. Многа, вельмі многа. А ў іх тутэйшыя людзі, між іншым, Анна і Сцяпан Койла з Дубін, Рыгор Саевіч з Навасадаў поруч з таварышамі з Расійскай, Беларускай, Украінскай і іншых рэспублік Савецкага Саюза. Гайнаўшчына іх карміла, скрывала, інфармавала, ведаючы, што за гэта пагражае віселіца.



*Захавальнік музея Дарыюш Раманоўскі за падрыхтоўкай новай экспазіцыі.*

Колішняя, але вечна жывая ідэя „За нашу і вашу свабоду“ здзяйснялася на гэтай зямлі не словам, а вялікай справай, што патрабавала пакласці ўласнае жыццё, як дзесяткі партызанаў, як 1223 салдат і афіцэраў Савецкай Арміі, што загінулі ў 1944 годзе, вызваляючы Гайнаўку і яе ваколіцы.

Музей, на працягу пяці год яго дзейнасці, наведала звыш 20 тысяч чалавек моладзі і дарослых з Гайнаўшчыны і многіх мясцін з усіх канцоў Польшчы, з Савецкага Саюза, Чэхаславакіі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі, Балгарыі, Англіі, Швецыі і іншых краін. У памятнай кнізе яны пакінулі запісы аб вынесеных з музея ўражаннях. Гэта словы прызнання гераізму, праяўленаму на Гайнаўскай зямлі. З некалькіх соцень запісаў мяне наймацней уразіў вось гэты:

*Очень приятно, что польские друзья так свято чтут подвиги, дела людей, отдавших жизнь за счастье народа. Мне, как дочери Н. М. Пазаева, особенно было приятно посетить Ваш музей, увидеть портрет моего отца, могила которого находится в Гайновке и поэтому Ваш город дорог для всей нашей семьи...*

Яго пакінула ў кнізе дачка палкоўніка Мікалая Пазаева, які загінуў, вызваляючы Кляшчэлі ў ліпені 1944 года.

Фатаграфія палкоўніка М. Пазаева знаходзіцца побач з пасведчаннем аб смерці Канстанціна Смактуновіча з Нарвы ў бітве ля хутара Іванаўка Растоўскай вобласці 31 снежня 1942 года і здымкамі радавітага белавежца — генерала Людовага Войска Польскага Аляксандра Вашкевіча, што загінуў вясною 1945 года ў бітве з гітлераўцамі пад Будзішынам, ужо на нямецкай зямлі.

І праўду кажа надпіс пры ўваходзе ў музей: „Пралетарыят Гайнаўкі, барацьбою якога кіравалі камуністы, узняў сцяг нацыянальна-вызваленчай барацьбы на найвышэйшую вяршыню славы“.

**Мікалай Гайдук**
**Фота аўтара**

(Працяг са стар. 1)

# БЕЛАСТОК 2000 года

жантарня, Марчук, Выгода, Скарупы і Стараселыцы. Іх будучы кшталт ужо вызначаецца сёння. Зусім новы прамысловы квартал, размерам да 500 гектараў, прадбачваецца абсталяваць у раёне цяперашніх вёсак Капляны, Ігнаткі і Памігачы.

На разбудову беластоцкай прамысловасці ў 1981-1990 гадах спатрэбіцца больш-менш 30 мільярдаў злотых. Гэта многа, бо гэтыя капіталаўкладанні павялічваюцца на звыш 100 працэнтаў у параўнанні з планаванымі ў цяперашняй пяцігодцы.

Будзе гэта перш за ўсё прамысловасць тэкстыльная, электронная, дрэвапрацоўчая, спажывецкая, вялікапанельнага будаўніцтва. У кожнай з гэтых галін даецца першынство вырабам высокай якасці. Для прыкладу: калі тэкстыльная прамысловасць, дык прадукцыя гатовай ужо вопраткі з высокаякаснай тканіны, гэта штучнае футра, дываны. Калі электроніка, дык мантаж тэлевізараў для каляровых перадач. Калі дрэваапрацоўчая прамысловасць, дык мэбля...

Колькасць рабочых павялічыцца ледзь на 20 працэнтаў, але прадукцыйнасць іх працы ўзрасце аж на 170 працэнтаў.

Жыллёвае будаўніцтва атрымае першынство ў Супраслі і Харошчы, а ў самім Беластоку — пераважна ў яго заходніх кварталах, дзе плануецца пасёлак „Захад“ для 35 тысяч жыхароў. Да 2000 года прыдзецца пабудаваць амаль 100 тысяч кватэр (65 тыс. у гадах 1976-1990 і 35 тыс. да 2000 г.), на што спатрэбіцца звыш 30 мільярдаў злотых. Тады напэўна кожная сям’я будзе ўжо мець уласную кватэру, а кожны член сям’і — асобны пакой.

Аднак адкінуць трэба мары аб шматпавярховых небаскробах. Вышэй 11 паверха ў нас будаваць не будуць. Гэта проста не аплоціцца. Спрыяльныя ўмовы ствараюцца для прыватнага 1-2-павярховага жыллёвага будаўніцтва. Толькі ў гадах 1976-1980 паявіцца ў Беластоку 1215 асабнякоў.

Беласток, як адзіны буйнейшы горад у паўночна-ўсходняй Польшчы, мае адыгрываць важную ролю ў адносінах да ўсяго гэтага макрарэгіёна, асабліва ў такіх галінах, як навука, вышэйшае навучанне моладзі, тэатральнае мастацтва, выдавецкая і літаратурная дзейнасць, спецыялістычная медыцына, турызм і радыё- ды тэлецэнтр.

Наш горад знаходзіцца на шляху міжнародных чыгуначных і шасейных дарог. Да 1990 года атрымае ён электрасілавое спалучэнне з Варшавай, значыць, і з усім светам. Тут засяроджаны будзе таварны і культурны абмен з нашымі ўсходнімі суседзямі.

Доследы паказваюць, што ў Беластоку найменш занячышчаная атмасфера. Такой жа яна і астанецца. Так што будучыня ў нас заманлівая. У Беластоку цяпер ужо добра жыць, а ў 2000 годзе будзе яшчэ лепш.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



*Частка новага жыллёвага пасёлка „Бэма“.*

## ШТО НОВАГА?

# Мудрасць свету ў 200 тамах

У СССР заканчваецца работа над „Бібліятэкай сусветнай літаратуры“, выданнем унікальным, якое не мае аналагаў у свеце па свайму маштабу. Здадзен у вытворчасць апошні з 200 тамоў. Тыраж кожнага з іх 300 тысяч экземпляраў.

У 140 тамоў уваходзяць найбольш значныя творы зарубежнай класічнай і сучаснай літаратуры. 60 — складаюць руская класіка і выдатныя творы савецкай літаратуры.

Задума такога выдання з’явілася яшчэ ў 1918 годзе. У тыя цяжкія гады Максім Горкі, заручыўшыся падтрымкай У. І. Леніна, прапанаваў стварыць выдавецтва „Сусветная літаратура“, якое выпускала б „для духоўнага ўзбагачэння Расіі... у велізарнай колькасці кнігі, у якіх увасоблена ўся мудрасць свету“. Аднак ажыццявіць гэту задуму ўдалося не адразу.

Англійскі пісьменнік-фантаст Герберт Уэлс, які наведаў у 1920 годзе маладую Савецкую рэспубліку, не тоячы здзіўлення, пісаў: „У гэтай незразумелай Расіі, якая ваюе, халодная, галодная, пераносіць бясконцыя нягоды, ажыццяўляецца літаратурнае пачынанне, немагчымае зараз у багатай Англіі і багатай Амерыцы. У паміраючай з голаду Расіі сотні людзей працуюць над перакладамі: кнігі, перакладзеныя імі, друкуюцца і змогуць даць новай Расіі такое знаёмства з сусветнай літаратурай, якое недаступна ніводнаму іншаму народу“.

Задачы, якія паўсталі перад вялікім калектывам савецкіх філолагаў, літаратуразнаўцаў, перакладчыкаў, былі даволі складанымі. Спатрэбіліся гады, каб распрацаваць толькі праспект унікальнага выдання. Выпуск жа „Бібліятэкі“ буйнейшае савецкае выдавецтва „Мастацкая літаратура“ пачало ў канцы 1965 года.

Велізарны матэрыял гэтага грандыёзнага збору разбіты на тры серыі. Першая прадстаўляе літаратуру Старажытнага Усходу, антычнага свету, сярэдніх вякоў, эпохі Адраджэння, XVII і XVIII стагоддзяў; другая серыя — літаратура XIX стагоддзя; трэцяя — творы, напісаныя ў XX стагоддзі.

Не толькі вялікі ахоп па часу, але і геаграфія „Бібліятэкі“ ўражаюць сваёй разнастайнасцю. Вось толькі назвы асобных тамоў: „Паэзія Усходняй і Паўднёва-Усходняй Азіі“, „Анталогія літаратур Афрыкі“, „Заходнееўрапейская паэзія XX стагоддзя“, „Паэзія Лацінскай Амерыкі“, „Паэзія сацыялістычных краін Еўропы“, творы пісьменнікаў

(Працяг на стар. 4)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 23.VII.** 9.00 Bajkowy poranek. 9.30 Biały brat Indianina — film fab. prod. NRD. 11.05 Rzeczpospolita muzyczna. 11.30 Niewidzialny świat — film dok. prod. ang. 12.30 Ci, którzy patrzą w głąb. 12.55 Radzimy rolnikom. 13.05 Studio 2.

**Niedziela — 24.VII.** 8.55 Program dnia. 9.00 Kino TDC Przygody psa cywila. 9.35 Antena. 10.05 Odyseusz i gwiazdy — film prod. CSRS. 11.30 Zamek Warszawski — film dok. 12.00 Dziennik. 12.20 Rolnicze rozmowy. 12.50 Klub sześciu kontynentów — Szlakiem Al. Macedońskiego. 13.35 Dla dzieci: L. J. Kern: Karampuk. 14.00 Piórkiem i węglem. 14.30 J. Tuwim: Kwiaty Polskie. 14.45 Los. Duż. Lotka. 15.00 Latarnik — film TP. 16. Program publ. 16.30 Studio sport. 17.30 Godzina za godziną — film fab. prod. pol. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Urodziny Matyldy — film fab. prod. pol. 22.10 Dobry wieczór Tu Łódź: Śpiewająca lokomotywa. 23.00 Studio sport.

**Poniedziałek — 25.VII.** 14.25 Program dnia. 14.30 Wakacyjne Kino Młodych. Beata. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Historia w krajobraz wpisana. 17.00 Teleferie 18.05 Przygody Pana Michała — odc. I serialu TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Teatr TV. R. Frelek, T. W. Kowalski „Przed burzą” — cz. IV „Angielskie gwarancje”. 21.30 Gdy zaczynaliśmy — Nowa Huta. 21.50 Camerata. 22.20 Dziennik.

**Wtorek — 26.VII.** 14.10 Program dnia. 14.15 Wakacyjne Kino Młodych. Orzeł. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio TV Młodych. 17.10 Kółko i krzyżyk — teleturniej. 17.25 Magazyn motoryzacyjny. 17.45 Interstudio. 18.20 W Starym Kinie. Ze świata burleski. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Dni chirurga Miszkina — cz. II. serialu radzieckiego. 21.50 Świadkowie. 22.10 X Y Z cz. I. 22.40 Dziennik. 22.50 X Y Z cz. II.

**Sroda — 27.VII.** 15.30 Program dnia. 15.35 Wakacyjne Kino Młodych. Podziemny front. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Kto czyta, nie błądzi. 17.00 Los. Małego Lotka. 17.15 Kino TDC Tajemnicza wyspa. 18.10 Gdy zaczynaliśmy — koleje. 18.30 Z przyrodą na Ty. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Kino Interesujących Filmów. Cleo od 5 do 7 — fab. film franc. 22.00 Studio sport. 22.45 Dziennik.

**Czwartek — 28.VII.** 14.25 Program dnia. 14.30 Wakacyjne Kino Młodych. Pierwsze dni. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Spoza gór i rzek. 17.00 Teleferie. 18.00 Reportaż wojskowy. 18.20 Opowieści reporterów — Szlakiem ballady. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Kojak — film krym. prod. USA. 21.25 Pegaz. 22.10 Śpiewa U. Koszut. 22.45 Dziennik.

**Piątek — 29.VII.** 15.00 Program dnia. 15.05 Wakacyjne Kino Młodych. Sześćdziesiąt trzy dni. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zapraszamy na stadiony. 17.00 Lato z książką. 17.30 Program oświat. 18.00 Kopernik — cz. III serialu TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Wieczór z Dziennikiem. 20.30 Film TV na świecie: Schronisko dla ubogich — film fab. TV szwedzkiej. 22.05 Poradnik zmotoryzowanego turysty. 22.15 Sygnały — magazyn. 22.45 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 22 lipca** — 8.30 Dla dzieci. 9.00 Film fab. 14.40 Film fab. 16.45 Koncert. 19.00 Nasza biografia. 20.30 Filmy dok. 20.55 Koncert.

**Sobota 23 lipca** — 8.30 Dla dzieci. 11.00 Koncert. 12.15 Film fab. 16.25 Film dok. 17.15 Filmy anim. 17.40 Transmisja festiwalu piosenki radzieckiej z Zielonej Góry. 18.40 Film fab. 20.30 Piłka nożna („Dynamo” Moskwa — „Torpedo”).

**Niedziela 24 lipca** — 10.00 Spektakl TV. 12.30 Film fab. 14.40 Koncert. 15.55 Filmy anim. 18.50 Film fab. 21.10 Sport.

## КІНО

**Białowieża** „Avanti” — USA 26—27. Eliksir młodości — rum. 28—29. Tomasz — fr. 30—31.

**Bielsk Podlaski** Vincent Francois Paul i inni — fr. 26—27. Zapomniana melodia — pol. 28—29. Policja dziękuje — wł. 30—31.

**Czeremcha** Miłość bywa zbrodnią — wł. 26—27. Niezawodni przyjaciele — rum. 30—31.

**Czyże** Ocalić miasto — pol. Obrazki z życia — pol. 27—31. Rodzina — pol. Z własnej nieprzymuszonej woli — rum. 27—31.

**Hajnówka** Odpowiedź zna tylko wiatr NRF 25—26. Czerwone ciernie — pol. 27—28. Ludzie godni szacunku — wł. 29—30. Po sezonie — ang. 31.

**Kleszczele** Wspaniały interes — fr. 26—27. Karino cz. I — pol. 28—29. Karino cz. II — 30—31.

**Michałowo** Z własnej i nieprzymuszonej woli — rum. 23—24. Ostatnie zadanie — USA 26—27. Królewskie marzenie — USA 28—29. Dowódca armii — radz. 30—31.

**Mielnik** Policja przygląda się — wł. 23—24. Premia — radz. 27. Kto szuka złotego dna — czes. 30—31.

**Milejczyce** Osobliwa miłość — wł. 26—27. Dziewczyna do dziecka — wł. 28—29. Magiczny kamień — NRD 30—31.

**Narew** Niewolnica miłości — radz. Zorro — wł. 27—31.

**Narewka** Dom — pol. Piosenka za koronę — czes. 27—31.

**Nurzec** Grubasek — czes. 26—27. Wieśniak na rowerze — buł. 28—29. Zanim nadejdzie dzień — pol. 30—31.

**Orla** Mniejszy szuka dużego — pol. Nieposkromieni hajducy — węg. 27—31.

**Rajsk** Ojciec chrzestny — USA. Mój brat ma fajnego brata — czes. 27—31.

B.Z.Graf. Zam. 1742 B-4




# Лёгка ваду муціць

Як толькі пачаліся канікулы, завіталі да нас гарадскія госці. Прыехалі і беластоцкія, і варшаўскія. І дзеці, і іх бацькі. Цяжка было нават разабрацца, чые яны: ці доччыны ці сына, хто з іх Яцэкам, а хто Маркам называецца, ці чарнавокая гэта Сільвія ці Нікаліна, а можа наадварот?

У нашага пакойнага Трахіма, які жыў пасярэдзіне вёскі, было аж сем сыноў і тры дачкі, але ніхто з нас ніколі не памыляўся, як іх называць, бо ўсе ведалі, што найстарэйшы — гэта Ваня, другі — Коля, трэцяя была дачка Оля... ну, і так далей...

— Не злуйцеся, татку, — паясняе мне мая Надзька, да якой яе муж чамусьці „Дзюнькай“ звяртаецца. — Такая мода, — кажа яна.

У той момант як не выскачыць з кухні мая Палашка і на мяне з усяго горла:

— Яшчэ дзеці не паспелі разгасцявацца, а ты ўжо чапляцца да іх пачынаеш. Ідзі лепш свінням „правіту“ нарыхтуй!

Што ж было рабіць? Пайшоў я да сваіх свіней, каб знаёмае іх рохканне паслухаць, заглянуў да бычкоў, пагладзіў каня па шыі і цалкам супакоіўся.

За вячэрай (тут мая Палашка пастаралася!), калі ўжо ўсім крыху зашумела ў галовах, мае гарадскія госці завялі гутарку пра палітыку. З тэмы на тэму, як зайцы, пераскаквалі, нічога толкам не растлумачыўшы. Найперш пра нейкую новую бомбу гаварылі, якую, мабыць, амерыканцы вынайшлі. Нішчыць толькі ўсё жывое, а будынкі астаўляе. Яшчэ ім мала ўсяго гэтага багацця! Пасля пра іспанцаў гаварылі, а наканец яшчэ нейкі „кор“, што ў нашай краіне шумець прабаваў, успаміналі.

Я сядзеў, вачыма лыпаў, каб не заснуць, да выпіўкі заахвочваў і толькі думаў: заўтра сена канчаць трэба і трускалкі ўжо дaспелі. Вось там мы і падыскутуем!

Як звычайна, распачалі мы дзень з усходам сонца. Палашка падаіла кароў, я накарміў жывіну, адставіў малако ў злеўню, выгнаў сваіх бычкоў на пасбішча, а разам з імі каня і красуль. Вярнуліся на снеданне. Дзень быў цудоўны, сонечны, парны.

— Рыхтуй хутчэй снеданне, — гавару я жонцы. — Трэба сена раскінуць, каб прасохла. Калі дзеці нам дапамогуць, то справімся мы з гэтым за нейкую гадзіну.

Вяртаемся дахаты, а мае гарадскія госці ўсё яшчэ храпуць, з боку на бок пераварочваючыся і праз сон ад мух адганяючыся.

— Хай спяць! — заступілася за іх маці, а твар яе цэлы апраменіўся радасцю, што такіх дзяцей і ўнукаў дачакалася. — Глядзі! Спяць, быц тыя паны! Ну, хай сабе і храпуць!

Мы хуценька штo-колеч перакусілі, што асталося з учарашняе ўрачыстае вячэры і пабеглі растрасаць сена. Калі ўжо даходзілі да апошняй капіцы, з'явіліся і яны, мае каханыя дзеці. Прыйшлі са смехам, перакрыкваючыся, і... амаль голыя, асабліва жанчыны без ніякага сораму павыстаўлялі наверх што трэба і не трэба.

Працавалі мы дружна, нічога дрэннага сказаць не магу. Толькі пад вечар гэтыя з горада неяк прыціхлі і замест смеху ўсё часцей чуваць было ад іх ціхі стогн і вохканне.

„Ну і добра! — думаў я. — Пабачым, што заўтра будзе...“

А заўтра ўзяліся мы за трускалкі. Кожны стаў на радок і давай біць паклоны зямлі-карміцельцы. Бо пры трускалках інакш нельга. Пакуль адну лубінку назбіраеш, паклонаў сто адаб'еш, бо пад кожны лісток заглянуць трэба. Усе мае гарадскія памагатыя не дацягнулі нават да абеду. Першыя недзе схаваліся дзеці, а пасля і старэйшыя ўсё часцей аб'яўлялі перакур, які за кожным разам станавіўся неяк усё даўжэйшым. Урэшце мая Палашка, паглядзеўшы на іх неяк літасціва, загадала зрабіць даўжэйшы абедзенны перапынак і сама пабегла на пашу кароў падаіць, каб малако не перагарэла.

(Працяг на стар. 4)



*Гарадоцкі жаночы харавы калектыў.*

# ФЭСТЫН У РЫБАКАХ

Кожны год у першую нядзелю ліпеня ў Рыбаках адбываюцца фэстыны БГКТ. Сёлетні прысвечаны быў 60-ай гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Менавіта таму месца ўрачыстасці асабліва багата ўпрыгожана было чырванню. На найвышэйшай альшыне павешаны быў чырвоны сцяг, які можна было ўбачыць з навакольных вёсак і з усіх дарог, якія вядуць да гэтай вёскі. На чырвоных палотнішчах напісаны былі словы: „Вітаем удзельнікаў фэстына“ і „60 год Вялікага Кастрычніка“. Пры трыбуне чырвоныя і бела-чырвоныя сцягі. Шмат чырвоных сцягоў было і ў іншых месцах.

Аб тым, што ў Рыбаках 3 ліпеня адбудзецца вялікая ўрачыстасць, ужо з самай раніцы абвяшчаў радыёмікробус ЛОК-у, праязджаючы праз многія вёскі і запрашаючы на гэтае мерапрыемства. Мелодыямі беларускіх і рускіх песень заахвочваў жыхароў да ўдзелу ў гэтай урачыстасці. І нягледзячы на тое, што пагода была дажджаватая, прыбыло аднак многа людзей.

Пасля аб'яўлення праз мікрафон, што неўзабаве распачнецца афіцыйная частка, гандлёвыя спажывецкія пункты міхалоўскага ГС-у перасталі працаваць, а людзі наблізіліся да трыбуны. І вось тады духавы аркестр Беластоцкага ВОП-у сыграў дзяржаўны гімн. Першы сакратар гміннага камітэта ПАРП у Міхалове Станіслаў Гаеўскі адкрыў фэстын і прывітаў прадстаўнікоў ГП БГКТ на чале з яго старшынёй Мікалаем Самоцікам і прадстаўнікоў улад з Міхалова на чале з начальнікам гміны Тадэушам Бязубікам. Затым з дакладам з нагоды 60-ай гадавіны Вялікага Кастрычніка выступіў старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі БГКТ, журналіст „Нівы“ Міхась Хмялеўскі. Пасля даклада духавы аркестр сыграў „Інтэрнацыянал“.

Мастацкую частку распачаў вайсковы духавы аркестр. Пасля яго выступіў жаночы хор з Гарадка. Затым спявала трохасабовая група з мужчынскага калектыву „Дубочкі“ з Дубяжына. Яе змянілі харавы калектыў Ляўкоўскай керамічнай фабрыкі. А закончылася мастацкая частка выступленнем музычнага калектыву з Міхалова. Кожная песня кожнага калектыву ўзнагароджвалася багатымі воплескамі.

Цікава таксама праходзіў конкурс „Згадуй-згадуля“ на тэму гістарычных падзей, звязаных з Кастрычніцкай рэвалюцыяй і з дзейнасцю БГКТ. Пасля пачалася забава пад музыку духавога аркестра. Гаспадаром фэстына быў мясцовы гурток БГКТ. Найбольш папрацавалі падчас яго арганізацыі: старшыня гуртка Мікалай Хлябіч і члены БГКТ Мікалай Міруць, Міхась Хлябіч і іншыя. Надвячоркам у многіх хатах былі сямейныя ўрачыстасці.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



*Духавы аркестр Беластоцкага ВОП-у.*



*Выступаюць „Дубочкі“.*



*Удзельнікі фэстына.*

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ЯН БЕЛАВЕЖАЦ

Дваццаць пяць год правёў Ян Белавежац на пошце ў Ласінцы. Усе яму тут знаёмыя. З памяці можа пералічыць прозвішчы ўсіх жыхароў навакольных вёсак, помніць, дзе хто жыве. Тысячы разоў, са сваім верным спадарожнікам — пісьманосный сумкай, прайшоў ён і праехаў гэтыя дарогі. Ці спякота, ці дождж, заўсёды сумленна і акладна аб'язджае ён свой раён, які складаецца з шасці вёсак. Кожны дзень перад ім дваццаць восем кіламетраў дарогі. Але не было такога выпадку, каб жыхар на час не атрымаў газеты, пісьма ці пасылкі.

— Запозна прывезеная газета з'яўляецца напалавіну макулатурай, а чалавек, робячы падпіску, чакае не паперы, а свежых вестак, — заяўляе Ян Белавежац.

Сумка яго заўсёды перапоўненая. Тут трыццаць экземпляраў „Газеты вспулчэснай“, дваццаць пяць — „Грамады“, дваццаць чатыры — „Хлопскай дарогі“ ды многа розных тыднёвікаў і штомесячнікаў. Аднак нішто не перавышае нават палавіны колькасці „Нівы“, на якую Ян Белавежац мае 78 падпісчыкаў.

— Калі параўнаю часамі тыя першыя гады, калі „Ніва“ толькі што пачала выходзіць, з апошнімі — ой, што за розніца! Сёння ж з'яўляецца яна настольнай газетай. Так ёсць у Кутавой ці Катлоўцы, дзе маю найбольш падпісчыкаў, — сцвярджае Я. Белавежац.

Праца пісьманосца — гэта не толькі штодзённае разважванне пошты. Тут і выплачванне грошай за малако, тут і забіранне грошай з вясковых крам і выплачванне рэнт. Праца нялёгкая.

— Але гэтага не заўважаеш. Прайшоў дзень, а з ім мінулі і ўсе цяжкасці. Найважнейшае гэта не падвесці людзей, — гаворыць наш пісьманосец.

І за гэта людзі яго любяць і паважаюць. **(мш)**

## Кажуць, што...

Калі жонка Цібуковага Яська павезла сына ў школу, Яську стала весела. Узяў ён грошы і пайшоў па вёсцы шукаць гарэлкі. Як загуляў Яська, дык і забыў, што дома трэба жывёлу напаіць і накарміць. Не хапіла яму і ночы: яшчэ другога дня раніцай шукаў, дзе папраўіцца. Потым Міхась паклікаў Яська, каб памог зарэзаць парсюка. Хоць у Цібуковага Яські была цяжкая галава, але ахвотна пайшоў да суседа: ізноў будзе дзе пахмяліцца. Так Яська забыў і на другі дзень пра сваю жывёлу. Калі сват Максім прыехаў да Яські, каб памагчы ў гаспадарцы, Яська ўжо быў „гатовы“ — хадзіў толькі ракам ды і то не надта. **М. Лук'янюк**

МАЙСТАР НА УСЕ РУКІ

# Гаспадар крылатай майстэрні

Сядзібу Ігната Палецкага заўважыць не цяжка, хоць і знаходзіцца яна на водшыбе, за вёскаю Гарбары: здалёк відаць растапыраныя крылы ветрака над яго майстэрняй. Так, іменна — майстэрняй, бо І. Палецкаму больш падыходзіць назва майстра-раменсніка, чым селяніна-хлебароба. Зямлі ў яго ўсяго паўгектара, і ўся яго сям'я ўтрымоўвалася і ўтрымоўваецца якраз з гэтай крылатай майстэрні.

Праўда, і на гэтай паўгектаровай лапінцы Палецкія патрапяць так гаспадарыць, каб штогод здаць дзяржаве 2—3 кормнікі і некалькі тысяч літраў малака ды і самім пражыць так, што свая скварка ў хаце не пераводзіцца. Але праўдзівы свет Ігната Палецкага — гэта ўсё ж рамяство. Заняўся ён ім яшчэ ў 1928 годзе, калі, маючы 25 год, вярнуўся з вайсковай службы. За гэтыя пяць дзесяткаў год колькі ён „назубіў" сярпоў, „адпусціў" сашнікоў да плугоў, „навастрыў" зубоў да бараны, „акаваў" колаў да вазоў ды змайстраваў безліч іншых гаспадарскіх прылад — і рознага абсталявання — сёння ніхто не злічыць.

Але не адно простыя рэчы выходзілі і выходзяць з-пад рук гарбароўскага майстра-самавука. Яшчэ ў трыццатыя гады пачаў ён „выліваць" каменне для жорнаў, млынкоў і млыноў. Асноўная для іх сыравіна — гэта дробна патоўчаная крамяні. Вядома: таўчы крамухі — катаржная работа. І Палецкі па ўласнай кемлівасці абсталяваў ветрак і да яго спецыяльную „крышарку". Задума ўдалася на славу: каменны „памол" пасыпаўся струменем. З падворачка, што на ўзбярэжку наднараўскіх лугоў, паехалі-пакаціліся ў шырокі свет млыновыя каменні. Вятрак жа апрача гэтага стаў круціць такарны станок, рэзаць сечку і рабіць шмат іншых карысных спраў. Наладзіўшы крайзэгу для пілавання дошак з розных намераў бярвення, ён прыдумаў да „разводу" зубоў у піле арыгінальны ключ, вынаходствам якога захапляюцца нават дыпламаваныя інжынеры.

Многа чаго іншага, непаўторнага і адметнага, прыдумаў і змайстраваў у сваім жыцці Ігнат Палецкі.

У яго сляды пайшлі і абодва сыны — Уладзімір і Аляксандр Палецкія, што працуюць механікамі ў Міхалове і Беластоку. Яны таксама майстры на ўсе рукі.

Калі не заглянеш на панадворак майстра, заўсёды ад світання і да змяркання там звініць пад молатам накавальня, вурчыць такарня, палае вуголле ў горне — не ведаюць спакою працавітыя рукі самароднага ўмельца, якому пайшоў ужо семдзесят пяты год.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара



Здалёк відаць крылатая майстэрня Ігната Палецкага.



А гэта ён сам „разводзіць" зубы ў піле адмысловым ключом уласнага вынаходства.

## ФАЛЬКЛОР

**ВЯСЕЛЬНАЯ**

Andante

На ка-ме-ню сі-нень-кім, на ка-ме-ню сі-нень-кім, сі-нень-кім мы ся-дзе-мі з мі-лень-кім, мы ся-дзе-мі з мі-лень-кім.

*На каменю сіненькім,*
*на каменю сіненькім,*
*сіненькім*
*мы сядзелі з міляньким,*
*мы сядзелі з міляньким.*
*Гаварылі пра любоў,*
*гаварылі пра любоў,*
*пра любоў;*
*ён пытаўся: чыя я,*
*ён пытаўся: чыя я.*
*— Дзяўчынонька, чыя ты?*
*Дзяўчынонька, чыя ты?*
*чыя ты?*
*Я прыеду ў сваты,*
*я прыеду ў сваты.*
*— Не пытайся: чыя я,*
*не пытайся: чыя я,*
*чыя я,*
*прыязджай — буду твая,*
*прыязджай — буду твая.*
*— Ні пайду я за цібе,*
*ні пайду я за цібе,*
*за цібе —*
*німа хаты ў цібе,*
*німа хаты ў цібе.*
*— Прыдзяш, сэрцэ, у чужую,*
*прыдзяш, сэрцэ, у чужую,*
*у чужую,*
*пакуль сваю збудую,*
*пакуль сваю збудую.*
*— Пастаў хату з лябяды,*
*пастаў хату з лябяды,*
*з лябяды,*
*а ў чужую ні вядзі,*
*а ў чужую ні вядзі.*
*Чужа хата такая,*
*чужа хата такая,*
*такая,*
*як свекруха ліхая,*
*як свекруха ліхая.*
*Хоць ні лае, то бурчыць,*
*хоць ні лае, то бурчыць,*
*то бурчыць,*
*а сяроўно ні маўчыць,*
*а сяроўно ні маўчыць.*

Ад Надзеі Баўкун, 1928 года нараджэння, вёска Грабяні гм. Дуброва Беластоцкая, запісаў у лютым 1977 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стружкі Людмілы Панько.

# Першыя магістры — завочнікі

Завяршыўся апошні акт смелага пачыну групы настаўнікаў беларускай мовы ў школах Беластоцкага ваяводства. 4 ліпеня гэтага года **Оля Гарустовіч** з Дубінаў, **Таня Шайкоўская** з Орлі, **Оля Анджэюк** з Гайнаўкі, **Ала Якубоўская** з Нарвы і **Ян Міранюк** з Махнатага з рук загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта доктара **Аляксандра Баршчэўскага** атрымалі **магістэрскія** дыпломы, якія сталіся вельмі заслужанай узнагародай за гады змагання з часам, якога заўсёды не хапала, са сном над кніжкамі і кантрольнымі работамі, з уласнай слабасцю.

Ішлі дружна. Пляча ў пляча, год за годам, ніхто нават не паўтараў ані аднаго курса.

Цяпер вось сядзяць у пакоі загадчыка кафедры, дзе прыйшлося правесці ім сотні гадзін за экзаменамі, заняткамі і кансультацыямі, сядзяць, смяюцца і жартуюць, а твары іх прамяняюць ад шчасця. За час супольнай працы яшчэ больш пасябравалі, сталі блізкімі, як у адной сям'і. Толькі чамусьці дрыжаць у іх рукі, у якіх трымаюць цёмначырвоныя кніжачкі з дзяржаўным гербам. Можа гэта ўспамін усіх тых цяжкасцей, якія прыйшлося ім пераадолець?

Амаль усе яны вывучалі фальклор тых вёсак, у якіх яны жывуць і працуюць. Такім чынам дачакаліся сваіх навуковых апрацовак Орля, Нарва, Дубіны, Махнатае, Тыневічы Вялікія, Дзяніскі, Малінікі, Плюцічы і іншыя вёскі Беласточчыны.

— Усе гэтыя працы, — гаворыць доктар А. Баршчэўскі, — адзначаюцца вялікай арыгінальнасцю апрацоўкі мясцовай народнай культуры, ратуюць ад забыцця старынныя песні і звычаі нашага люду, уносяць каштоўны ўклад у вывучэнне гісторыі культуры ўсходніх ускраін нашай краіны.

І гэта самая лепшая заплата за недаспаныя ночы, за адкінутыя, а як жа спакушальныя прыемнасці жыцця.

Звяртаюся да іх з пытаннем:

— З якімі пачуццямі атрымліваеце вы дыпломы магістра беларускай філалогіі?

**Оля Гарустовіч:** Адчуваю сябе я цяпер поўнавартаснай настаўніцай беларускай мовы.

**Таня Шайкоўская:** Я ўдзячна ўсім, хто нам дапамог пераадолець усе цяжкасці, а найбольш я ўдзячна доктару Баршчэўскаму за яго сяброўскія адносіны да нас усіх.

**Ян Міранюк:** Здаецца мне, што я цяпер змагу лепш навучаць роднай мове дзяцей. У Махнатым зараз 115 вучняў у васьмі класах і ўсе яны (апрача першага класа) прымаюць удзел ва ўроках беларускай мовы.

**Оля Анджэюк:** Дыплом магістра беларускай філалогіі дае мне перш за ўсё пачуццё жыццёвай стабільнасці і тую свядомасць, што беларуская мова нічым не горшая ад іншых моў і што варта, каб яе ведалі дзеці ў школах, у якіх даводзіцца нам працаваць.

**Ала Якубоўская:** Магу толькі далучыцца да выказванняў маіх сяброваk, хаця ў Нарве справа з навучаннем беларускай мовы крыху ўскладнецца, бо не ўсе дзеці ходзяць на ўрокі гэтай мовы. Цяпер, так мне здаецца, я змагу болей пераканаўча прывіваць любоў сваім вучням да ўсяго роднага, бацькоўскага.

У верасні або ў кастрычніку наступная група выпускнікоў завочнага курса атрымае дыпломы магістраў беларускай філалогіі з правам адначасовага выкладання рускай мовы. Будуць яны першымі, але не апошнімі. На змену ім прыйдуць іншыя завочнікі.

**Віктар Рудчык**



*Першыя выпускнікі завочнага курса беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.*

БЕЛАРУСІЯНА

### ДАСЛЕДАВАННІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ ДЭМАНАЛОГІІ

„Польскія даследаванні над беларускай народнай дэманалогіяй у гадах 1815—1831" — пад такім загалоўкам быў змешчаны ў 4-ым нумары мінулагодняга квартальнага часопіса „Эўгемер" артыкул Аліцыі Мацеек, у якім аўтар дае цікавы і змястоўны агляд даследаванняў беларускага фальклору, а дакладней дэманічных сіл у народным вераванні, якія праводзіліся польскімі этнографамі ў перыяд нараджэння і стабілізацыі польскага Рамантызму. Выходзячы з уплыву агульнаеўрапейскага павароту да народнасці, дае некалькі аксіём, ствараючых фон для зацікаўлення беларускай народнай дэманалогіяй, і, паказваючы вялікую ролю і ўплыў на развіццё дзейнасці ў гэтым напрамку Таварыства сяброў навукі, Віленскага універсітэта ды „Віленскага дзённіка", які ў гадах 1816-1817 апублікаваў „Інструкцыю да ўкладання ў гімназіях і павятовых школах запісаў у прадмеце розных навук", пераходзіць да рэцэнзавання аналізу прац асобных аўтараў. У сваім нарысе праводзіць храналагічны пералік апублікаваных прац — пладоў даследавання беларускай народнай дэманалогіі, якія былі рэхам на заклік Віленскага універсітэта. Аўтар паказвае два напрамкі даследавання: адзін — у форме ўзятых у рамкі тэарэтычна-навуковай апрацоўкі запісаў фальклорнай абраднасці, звязанай з народным вераваннем; другі — паэтычнае пераўтварэнне культу дэманічных сіл і абрадаў, звязаных з імі, ды ўвядзенне іх у мастацкую літаратуру за пасрэдствам літаратараў з гуртка філаматаў. Артыкул А. Мацеек — гэта ўпарадкаваны шлях даследаванняў беларускага фальклору ў адзначаны перыяд. Апрача гэтага, прыводзіць аб'ёмістую бібліяграфію прац, закранаючых або поўнасцю прысвечаных беларускай народнай дэманалогіі.

**М. Шаховіч**

 

## Фота па заказу

Irena Woźniacka

Заказвала Аля Анішчук з Клейнік.

## Вер-не-вер

Шаноўны пане Астрон! Шчыра прызнаюся, што дзякуючы Вашай рубрыцы чакаю я ў пятніцу выхаду „Нівы“ з сапраўднай нецярплівасцю. А ўсе Вашыя тлумачэнні сноў я нават запісваю ў спецыяльным сшытку. Але сёння мне прысніўся такі сон, якога Вы яшчэ не тлумачылі.

Сніцца мне, што вяртаюся я ў сваю вёску. Перада мною шмат дарог. Але якой бы дарогаю я не пайшла, то аказваецца, што гэта не тая дарога. Нарэшце трапіла я на ўласцівую. Але была яна такая забалочаная, што ніводзін чалавек тудою не прайшоў бы. Па абодвух баках стаялі драўляныя самотныя хаткі, гэта значыць, пустыя хаткі, патанаючыя ў квітнеючых садах. Але сонца не свяціла, было пахмурна. Я пачала ісці па дахах гэтых хатак. Было мне лёгка ісці, я нават бегла і лёгка пераскаквала па дахах. Усюды я бачыла квітнеючыя, але пустыя сады. Калі я прыйшла дахаты, мне сказалі, што мой брат у турме і няма каму пасадзіць бульбу. Тады я запрагла чырвонага каня і пайшла араць. Я гэтага раней ніколі не рабіла, дык з вялікай увагай сачыла, каб плуг уваходзіў глыбока ў зямлю. Напірала з усіх сіл на плуг. Але конь ішоў занадта хутка, і я не зусім была задаволена сваёй працай. Потым я ўбачыла, што вопытны гаспадар, сусед, заараў сваё поле так, як і я. А пасля пачаў вырываць пустазелле, гэта значыць, палоць. Дык і я пачала рабіць гэта на сваім полі. Што мог бы абазначаць такі сон?

Часта сніцца мне адзін і той жа сон: быццам я на вёсцы і бачу дом суседа такі, якім ён з'яўляецца ў сапраўднасці. Навокал палі, побач стаў. А я заўсёды толькі сяджу і гляджу. Ці можа мець нейкае скрытае значэнне гэты паўтараючыся сон?

Лідзія

**Паважаная Лідзія!** Цяжка ўявіць, каб на нашых старонках вы знайшлі ўсе магчымыя сны — такія яны бываюць неспадзяваныя і непраўдападобныя. А тое, што завялі вы спецыяльны сшытак — цікавае.

У вашым доўгім сне зарысоўваюцца нейкія непрыемныя справы (уласцівая дарога дахаты была вельмі забалочаная), можа хтосьці на вас напляткуе, ачэрніць. Але вы выйдзеце з гэтага пераможна і не пагражае вам утрата самастойнасці (нідзе не было людзей). Былі затое квітнеючыя сады, вы лёгка скакалі па дахах, быў чырвоны конь і плуг, якім вы аралі зямлю, ды і ачышчалі вы ад усялякага пустазелля сваё поле. Усё гэта абазначала б поспех у вашым жыцці і гаспадарцы, а з людскім „пустазеллем“, якое толькі чэша языкам, і так расправіцеся.

**Астрон**

P. S.

Той ваш сон, што часта паўтараецца, думаю, нічога асаблівага не абазначае. Проста: успаміны з дзяцінства.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, толькі год часу, як я выйшла замуж, але ўжо маю досыць усяго. Жывем з мужам у яго бацькоў. Спачатку было ўсё ў парадку. Адчувала сябе ў цесцяў, як дома. Але нядоўга. Муж мой пачаў часта запівацца. Ён і кавалерам любіў сабе пацягнуць. Мы хутка пажаніліся, і я думала, што ён зменіцца, а ён, калі нап'ецца, чапляецца і да маці і да мяне. Але маці нічога яму не скажа, бо з п'яным то лепш ціха, а калі выцверазее, дык няма чаго пачынаць, ну яго. І так заўсёды. А я бачу, што яму толькі таго і трэба. Урэшце я не сцярпела і аднойчы, калі ён, падпіўшы, кінуўся да мяне, сказала, што міліцыю паклічу, не дазволю на такія здзекі. Тады і маці на мяне абурылася, што гэта ўсё з-за мяне, бо як гэта жонка можа мужу міліцыяй пагражаць. Перастала да мяне адзывацца, бурчыць толькі, што сын нешчаслівы. Я ўрэшце мужу сказала, што калі так будзе надалей, дык не хачу з ім жыць. А калі і аб гэтым цёшча даведалася, дык кінулася да мяне, як гэта: вяселле зрабілі, такія выдаткі, а цяпер развод, сорам такі! Сына змарнавала я ёй, і так усё кругом, ва ўсім я вінавата. Што тады рабіць мне, няшчаснай, парай, Сэрцайка?!

Міра з Бельшчыны

Міра! Аддзяліся ад цесцяў, тым больш, што цёшча неўласціва паступае, баронячы сына. А мужу скажы адкрыта, што калі не пакіне гарэлкі, не супакоіцца, возьмеш развод. Гэта будзе адзінае і найлепшае ў такім выпадку выйсце.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** Я. пражывае на гаспадарцы з незамужняй дачкой. Яму ужо 68 год, а дачцы 42. Паводле акту ўласнасці, выданага адміністрацыйнымі ўладамі, гаспадарка з'яўляецца супольнай уласнасцю Я. і яго брата К., якому 49 год. К. пабудаваў на супольнай сялібе мураваны гаспадарчы будынак значнай вартасці, якім карыстаецца Я., бо К. мае сваю асобную гаспадарку. Цяпер яны хочуць падзяліць сялібу, аднак у гміне ім сказалі, што сяліба, якая мае 24 метры шырыні, занадта вузкая і падзяліць яе нельга, таму адзін з братоў атрымае сплаты. К. гаворыць, што сялібу прыдзеляць яму, бо ён малады і сапраўдны гаспадар і Я. не меў бы чым яму сплаціць, бо няздольны да працы. Ці можа суд прыдзяліць сялібу К., а калі так, што мае рабіць Я.? Ці можна прыдзяліць К. яго гаспадарчы будынак, а сялібу пакінуць Я.?

**АДКАЗ:** Пры падзеле супольнай гаспадаркі першынство ў яе атрыманні мае той, хто гаспадарку апрацоўвае. Праўда, Я. з'яўляецца няздольным да працы, што ў асноўным бывае перашкодай у атрыманні гаспадаркі, аднак ён мае здольную да працы дачку, якая памагае яму гаспадарыць, і таму гаспадарка можа быць яму прыдзелена. Нельга прыдзяліць будынак аднаму, а сялібу другому. Таму, калі суд прыдзеліць сялібу Я., то прыдзеліць яму і гаспадарчы будынак, які пабудаваў К. Той атрымае сплаты за сваю частку сялібы і поўную вартасць гаспадарчага будынка. Сплаты суд можа разлажыць на раты — да дзесяці гадоў.

Калі б суд меў прыдзяліць сялібу К., то Я. можа патрабаваць прызнання яму права пажыццёвага карыстання з жылога дома і гаспадарчых будынкаў.

„Каласкі“ ў калоссях. Фота М. Хмялеўскага.

## Куток практычных ведаў

У здаровым целе здаровы і дух

# Калі ў цябе сухая скура твару...

Сухая скура на твары выступае ў вельмі многіх жанчын. Таму нічога дзіўнага, што многія з іх непакояцца — сухая скура твару вядзе непазбежна да маршчын. Асабліва небяспечна гэта для вясковых жанчын, твар якіх насвятляецца ў большай ступені сонечнымі праменнямі. Але сёння і вясковая жанчына хоча выглядаць заўсёды прыгожа. Найбольш усё ж цікавяцца тым, як сачыць за сухой скурай твару, маладыя жанчыны ва ўзросце 15—25 год.

Сухая скура твару вельмі далікатная. Яна вельмі падатная на розныя атмасферныя фактары, на касметыку, на хлараваную ваду і мыла. Гэта скура вельмі тонкая, колер яе ружова-жаўтаваты, яна можа лушчыцца і лёгка раздражняцца.

Раніцай і вечарам варта было б мыць твар і шыю ружаным малачком ці касметычнай смятанкай, выкарыстоўваючы пры гэтым невялікія тампонікі з ваты. Ачышчаць скуру трэба некалькі разоў, змываючы твар кругавымі рухамі, каб не расцягваць скуру. Ачысціўшы твар, трэба змазаць яго танізуючай вадкасцю, якая ўзмацняе скуру, а адначасова ліквідуе рэшткі забруджванняў. З танізуючых вадкасцей для сухой скуры твару найбольш адпаведнай была б вадкасць з кветкавага пылку або плын „Tilia“. Што датычыцца крэмаў, дык адпаведнымі для сухой скуры былі б крэмы, у якіх знаходзіцца шмат вады. Іх ужываюць вясной, летам і ранняй восенню. Гэта так званы ружавы крэм, малочны, „Nivea“. Можна выкарыстоўваць таксама спецыяльную эмульсію для сухой скуры, так званую навільжаючую. Яе можна выкарыстоўваць таксама ў якасці падкладкі пад пудру.

**Эскулап**

## Падпалкоўнік А. Говараў

# Двайная гульня

### Запіскі ваеннага контрразведчыка

У гады другой сусветнай вайны фашысцкай Германіяй была створана велізарная разведвальная машына, прычым асноўныя намаганні гэтай машыны нямецкае камандаванне накіравала супраць Савецкага Саюза.

Толькі па лініі ваеннай разведкі і контрразведкі (абвера) на савецка-германскім фронце дзейнічала 130 разведвальных груп. Гітлераўцы мелі 60 разведшкол, у якіх, напрыклад, у 1942 годзе абучалася каля 10 тысяч агентаў. Акрамя таго, падрыхтоўка агентуры вялася на розных курсах і ў індывідуальным парадку. У тыл савецкіх войск закідваліся тысячы шпіёнаў, дыверсантаў, тэрарыстаў, прапагандыстаў, якія павінны былі збіраць інфармацыю аб розных ваенных аб'ектах, рабіць дыверсіі, выводзіць са строю камандны састаў, схіляць ваеннаслужачых да здрады Радзіме, распаўсюджваць чуткі, сеяць паніку.

Аднак разведка праціўніка сутыкнулася з трывалым маральна-палітычным адзінствам савецкага народа і актыўнымі дзеяннямі органаў дзяржаўнай бяспекі СССР. Характэрнымі з'яўляюцца паказанні арыштаванага ў 1945 годзе начальніка агентурнай ваеннай разведкі (абвер-І) генерала Пікенброка, які многія гады кіраваў шпіёнскай работай супраць Савецкага Саюза.

„Расія, — сказаў ён, — самая цяжкая краіна для ўкаранення агентаў... Адразу пасля ўварвання на тэрыторыю СССР мы распачалі падбор агентуры з ліку савецкіх ваеннапалонных. Але было цяжка зразумець, ці згодны яны сапраўды працаваць на германскую разведку, або маюць намер такім шляхам вярнуцца ў рады Чырвонай Арміі. Многія з іх пасля перакідкі ў тыл савецкіх войск ніякіх данясенняў не прыслалі. У цэлым я павінен прызнаць, што наша ваенная разведка фактычна не выканала пастаўленых перад ёю задач. Але прычынай гэтаму не столькі недахопы ў рабоце нямецкай разведкі, колькі актыўнасць савецкай контрразведкі і пільнасць ваеннаслужачых Чырвонай Арміі, а таксама цывільнага насельніцтва“.

Аб некаторых эпізодах барацьбы з фашысцкай разведкай, аб аператыўным майстэрстве савецкіх контрразведчыкаў расказваецца ў запісках, што прапануюцца чытачу.

### „РАЗ'ЕЗД“

Восень 1941 года. Германскія войскі рвуцца да Масквы.

...Вечарам у транспартным аддзеле Камітэта дзяржаўнай бяспекі зазваніў тэлефон. Трывожны голас:

— Гаворыць абходчык Быстроў з раз'езда Ольгіна. Да мяне ў хату прыйшлі два дыверсанты. Дапамажыце. Я іх пакінуў дома, а званю з будкі.

Праз дзве гадзіны група чэкістаў пад кіраўніцтвам капітана Косціна была на месцы. З Быстровым сустрэліся ля чыгуначнай будкі. Ледзь стрымліваючы хваляванне, ён расказаў: у яго хату прыйшлі двое — капітан і лейтэнант. Абодва брудныя, стомленыя. Папрасілі дазволу прывесці сябе ў парадак, адпачыць. Калі капітан выходзіў у двор, лейтэнант ціха сказаў, што сюды іх закінулі самалётам немцы, і прасіў тэрмінова паведаміць аб гэтым, куды трэба.

Аператыўныя работнікі паціхеньку адчынілі дзверы. Прамень ліхтарыка слізгануў па пакоі: двое ляжаць на падлозе, накрыўшыся коўдрай. Убачыўшы накіраваныя на іх аўтаматы, яны, не спяшаючыся, усталі і паднялі рукі. Раптам адзін з іх, лейтэнант, кінуўся да акна, але яго тут жа скруцілі. Затрыманых абшукалі. Пры іх былі пісталеты, пасведчанні і камандзіровачныя, вялікія сумы грошай і дзве пары залатых гадзіннікаў.

Капітана павялі першым. Застаўшыся сам-насам з Косціным, лейтэнант з палёгкай уздыхнуў і ўсміхнуўся:

— Нарэшце я ў сваіх! Дайце, калі ласка, закурыць.

Ён спрытна скруціў самакрутку і прагна зацягнуўся.

— Хто вы? З якім заданнем прыбылі? — задаў пытанне Косцін.

Лейтэнант пачаў расказваць:

— Я сапраўды лейтэнант Чырвонай Арміі. Прозвішча маё — Максімаў. Дакументы мне немцы далі на сапраўднае прозвішча. Родам з Харкава. Перад вайной служыў камандзірам узвода сувязі ў артылерыйскім палку пад Львовам. Аднойчы вясной у горадзе я ўбачыў бойку: група хуліганаў біла падлетка. Ну, вядома, умяшаўся. Хуліганы разбегліся. Хлопец — звалі яго Іванам



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Вучнёўскі сеймік

На заканчэнне школьнага года ў Бельскім беллiцэі імя Б. Тарашкевіча адбыўся першы школьны сеймік. Былі запрошаны гаспадары класаў і настаўнікі. Удзельнічаць маглі ўсе ахвотныя вучні. Сеймік працаваў тры дні. Былі дзве камісіі — навуковая і гаспадарчая.

У першы дзень вялася жывая дыскусія, а потым быў апрацаваны план далейшай працы на наступны год. На другі дзень у сейміку прынялі ўдзел настаўнікі: Г. Стэпанюк (мастацкае і тэхнічнае выхаванне), Г. Карпюк (польская мова, апякун ГСПС), Е. Б. Нядзведская (нямецкая мова, апякун ГСПС). Вучні разам з настаўнікамі разважалі над рознымі школьнымі справамі, асабліва над дзейнасцю ГСПС і школьнай самадапамогай.

На трэці дзень адбылася сустрэча з дырэктарам школы Аляксеем Карпюком. Дырэктар вельмі прыхільна аднёсся да розных вучнёўскіх прапаноў і планаў. Пасля поўдня ўдзельнікі сейміка падсумавалі працу. З новым школьным годам будуць рэалізавацца новыя заданні.

**В. Анапюк**




### БУЛЬБА

Пасадзіць у полі бульбу,
Каб на добрую расла —
Бульбай вепрука укорміш,
Падгадуеш ты быка.

Бульба — гэта наша ежа,
На спажыцце йдзе штодня.
З бульбы пляцак, з бульбы бабка,
З бульбы ежаў дваццаць пяць.

Як пасадзіш ў полі бульбу,
Потым ў борану каня,
Барануеш добра поле —
І пустазелля ўжо няма.

Абараці трэба бульбу —
Будзе лепшая расла,
А потым панішчыць стонку —
То найгоршая бяда.

Адзін стонку ўжо панішчыў,
Другі вухам не вядзе,
Трэці кажа — хай так будзе,
Яна сама прападзе.

Як капаці станеш бульбу,
То абачыш ты ўсё,
Калі сам не знішчыў стонку,
Дрэнны плён ты сабярэш.

Трэба бульбу шанаваці,
Бо у свет шырокі йдзе.
За граніцай нашу бульбу
Кожны золатам заве.

**М. Лук'янюк**

— быў увесь у крыві, ледзь трымаўся на нагах. Я правёў яго дадому і такім чынам пазнаёміўся з яго бабуляй Стэфаніяй. Жылі яны ўдваіх на ўскраіне Львова, мелі сваю гаспадарку. Бабка гэта мне чымсьці не спадабалася. Вярнуўся я ў часць, расказаў, каму трэба, аб тым, што адбылося, і раптам чую: „Гэта добра, што ты са Стэфаніяй пазнаёміўся. Дапаможаш у выпадку чаго“. Аказваецца, сын і нявестка бабкі дзесьці за мяжой, муж арыштаван нашым асобым аддзелам за шпіянаж, ды і сама яна таксама на падазрэнні. Дамовіліся, што я дапамагу назіраць за ёю. Але тут пачалася вайна... Трымаліся мы больш чым тыдзень. Большасць маіх таварышаў засталіся там ляжаць у зямлі. Я быў паранены ў нагу, хадзіць амаль не мог. Калі мы зразумелі, што апынуліся далёка ў тыле ворага, камісар палка маёр Андрыянаў і работнік асобага аддзела капітан Душычаў далі мне спецыяльнае заданне і растлумачылі, як яго выконваць. Полк пачаў прабівацца на ўсход. Мяне ноччу давялі да ўскраіны Львова, а на світанні я дабраўся да дома сваіх знаёмых. Стэфанія прыняла мяне. Іван схаваў у хляве, клапатліва даглядаў і лячыў. Атрымалася, аднак, так, як мы і меркавалі. Бабка не адразу, але ўсё ж данесла пра мяне немцам — відаць, разведчыкам.

*(Працяг будзе)*



Фрагменты мураў перад аднаўленнем.

## Аднаўленне мураў Супрасльскай царквы

У Супраслі ў колішнім манастырскім ансамблі засталіся муры царквы з XVI ст., якая была пабудавана ў заходне-рускім стылі. Слаўную царкву знішчылі гітлераўцы ў ліпені 1944 года. Уцалелі толькі некаторыя фрэскі, якія, аднаўленыя, знаходзяцца цяпер у Акруговым музеі ў Беластоку. Ваяводскі кансерватар гістарычных помнікаў таксама здолеў забяспечыць муры царквы вышынёй у 2,5 метра. Яны, аднак, вымагаюць аднаўлення. Ваяводскі кансерватар выдаў загад беластоцкай працоўні кансервацыі гістарычных помнікаў, і яна за 2 мільёны злотых выканае гэту працу. Ужо прывезлі гатыцкую цэглу, якая больш трывалая і з якой пабудуюцца знішчаныя муры.

Экскурсанты і турысты, удзельнікі розных лагераў у Супраслі ахвотна наведваюць даўнейшы манастырскі ансамбль з фрагментамі мураў. Аднаўленне мураў будзе закончана да 30 верасня гэтага года.

Тэкст і фота **(гай)**

## З думкай аб будучыні

У мінулым годзе на тэрыторыі ўсёй Чаромхаўскай гміны было 280 га няўгоддзяў і папару, 233 га поля, дрэнна загаспадаранага. Згодна з указаннямі ўлад аб выкарыстанні ўсіх рэзерваў, у Чаромхаўскай гміне было да канца красавіка гэтага года асвоена 209 га няўгоддзяў і папару і 229 гектараў дрэнна загаспадараных земляў.

Найбольш угоддзяў асвоілі сяляне (217 га), эскаэры (89 га) і сельскагаспадарчыя кааператывы (28 га). Засталося неасвоеных яшчэ 80 гектараў. Гэта пераважна зямля VI і VIрз класаў, якая знаходзіцца ў Беразішчах, Кузаве і вёсцы-Чаромсе.

Апрача таго, на тэрыторыі гміны належным чынам упарадкавана 111 га лугоў. З гэтага ліку сяляне купілі 28 гектараў. Плёны яшчэ павялічацца, калі будзе праведзена кансервацыя меліярацыйных равоў. А такую працу неабходна зрабіць на адрэзку 1100 метраў.

Вышэй прадстаўленыя лікі сведчаць аб тым, што гмінныя ўлады пры падтрымцы ўсяго насельніцтва выкарыстоўваюць усе магчымыя рэзервы сельскай гаспадаркі.

**Ул. Сідарук**

## Дзякуй, шафёр

Аднойчы чэрвеньскім днём вярталася я з хаты ў Беласток. Пайшла на аўтобусны прыпынак у вёсцы Зубава, Бельскай гміны. У „Ніве“ пісалася, што аўтобус з Бельска ў Кожына ходзіць нерэгулярна. А вось тут я сустрэлася з мілай неспадзеўкай. Была гадзіна 17.50, пагода сапсавалася. Пачаў ліць дождж. Бліскала і грымела. Людзей на прыпынку не стаяла многа. Але кожны з іх нерваваўся: прыедзе аўтобус, ці не прыедзе ў такую пагоду? Аўтобус прыехаў. Як прыемна было слухаць цёплыя словы, накіраваныя да шафёра. Ён не спазніўся, ён ведаў, што і ў так дрэнную пагоду людзі чакаюць. Больш бы такіх шафёраў!

**Дубінка**

## Бульба

Жыхары гміны Нараўка пераканаліся, што найлепш ім садзіць бульбу. Землі тут не найлепшыя, а мінулы год паказаў, што бульба дае тут добрыя ўраджаі. Восенню гаспадары гміны прадалі 1200 тон, а вясною 733 тоны бульб

**А. З.**

## Клуб сярод кветак

Вясною гэтага года ў ПГР „Ігнаткі“ была адкрыта для рабочых сталовая. У ёй 110 месц, два клубы і буфет з халоднымі закускамі. У будучым будзе яшчэ і кавярня. Гэты новы і сучасна абсталяваны будынак сведчыць аб тым, што кіраўніцтва дакладае шмат намаганняў, каб усё больш паляпшаць умовы працы сваіх працаўнікоў.

**Мікалай Няплоха**

## Беспарадак

Едучы дарогай за гародамі ў Трасцянцы ў напрамку былой цагельні, сустракаеш некалькі корчыкаў. Туды жыхары Трасцянкі выкідаюць шкло і непатрэбнае жалеза. Яно валяецца і на дарозе. А ці ж у вёсцы не ведаюць, што школа ў Трасцянцы кожны год збірае злом? Навошта ж яго выкідаць! Іншая рэч, што шкло, якое валяецца на дарозе, з'яўляецца небяспечным для ўсіх, хто там ходзіць. Трэба там зрабіць парадак супольна — вясковай грамадою.

**М. Лук'янюк**

## Новая святліца

Відава — гэта вёска, якая ляжыць зусім блізка ад Бельска. Так па праўдзе, дык цяжка распазнаць, дзе канчаецца Бельск, а пачынаецца Відава — так усё разбудавалася. Дагэтуль культурная дзейнасць у Відаве амаль не развівалася. Слаўная была толькі „святліца“. Смяяліся з яе ўсе. Акон і дзвярэй ў ёй не было, ды і сам дах амаль што не завальваўся. Калі прыйшлося зрабіць забаву, дык толькі на паветры. Ад самога гуку інструментаў святліца магла заваліцца.

Жыхары вырашылі пабудаваць сабе святліцу як трэба. Падалі заяву ў гміну, каб прызналі ім будынак з разборкі. Справа была пазітыўна вырашана ў гэтым годзе. У адну нядзелю сабраліся дружна ўсе жыхары сяла. Работа ішла хутка і згодна. За нядзелю фундаменты былі гатовыя. Яшчэ ў тым самым тыдні ўсе вазамі паехалі ў Бельск. Там разабралі і прывезлі ў Відава вялікі драўляны дом. У наступную нядзелю злажылі яго і накрылі. Святліца гатовая. Будзе цяпер дзе збірацца. У новай святліцы будзе змяшчацца і гурток вясковых гаспадынь.

Трэба падкрэсліць вялікую дружнасць, ахвоту людзей да працы. Ніхто не адмаўляўся ад працы. Людзі з іншых вёсак могуць браць прыклад з відаўцаў.

**В. О.**

## Ліповая без ліп

У Гайнаўцы ў пасялковым камітэце № 4 ёсць вуліца Ліповая. Вуліца гэта — цэнтральная на пасёлку, даўжынёй 1,5 км. Вуліца называецца Ліповай, але ліпак тут не знойдзеш.

Каб вуліца была не толькі з назвы ліповай, вучні пачатковай школы № 2 з VI класа пад кіраўніцтвам настаўніцы Марыі Харкевіч пасадзілі 100 ліпак. Дырэктар Ваяводскай спулдзельні працы, аддзела ў Гайнаўцы, Мікалай Сапежка даў транспарт для прывозу драўлянага матэрыялу з Дубін, з якога парабілі палікі і папрывязвалі новыя саджанцы, каб яны не знішчыліся. Ад імя жыхароў пасёлка шчырае дзякуй усім за гэтую працу.

Старшыня пасялковага камітэта
**Э. Вайсковіч**

## Сустрэча ў клубе

Клуб БГКТ у Беластоку арганізуе многа сустрэч з цікавымі людзьмі. Вось прыклад: нядаўна журналіст Мікалай Гайдук расказаў нам у клубе аб вартасцях фальклору і яго ролі ў беларускай літаратуры. Цікавай была сустрэча з паэтамі групы „Белавежа“: Надзяй Артымовіч, Васілём Петручуком, Леапольдам Танкевічам і Іванам Кірызюком, а таксама з трыма маладымі паэтамі групы „Бакалаж“.

Не ведаю толькі, чаму мала нашай моладзі прыходзіць на гэтыя сустрэчы. Варта пацікавіцца і гэтай формай культурнай дзейнасці.

**Дубінка**

## На магілу пайду я

На нашых могілках у Гарадку ляжаць байцы, якія загінулі за вызваленне нашага мястэчка. Я над кожнаю такою магілкаю плачу.

І я буду прыходзіць на магілы, як маці да сынкоў, або як сястрычка да браткоў. Калі я яшчэ была маладая, спявалі, помню, такую песеньку: „Ах умру я, умру, пахаронят мяне, і радныя не ўзнаюць, дзе магіла мая. На магілу маю, знаць, ніхто не прыйдзёт, толькі ранняй парой салавей запаёт“.

Праўда, спявае ім салавейка. Але і я хачу табе, „Ніва“, сказаць, не забуду іхніх магіл да самай смерці!

Буду прыходзіць,
Садзіць буду кветкі,
І свечку запалю ім калі,
Яны ж маладыя,
Далёка ад родных,
За нас у зямельку леглі.

**Надзя Дудзік**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да артыкула „ДЗЕСЯЦЬ КЛОПАТАЎ ЦІСОЎКІ“, „Ніва“ № 17/1104 ад 24 красавіка 1977 года.**

**Адказвае:** ZAKŁADY ENERGETYCZNE OKRĘGU CENTRALNEGO ZAKŁAD ENERGETYCZNY BIAŁYSTOK REJON BIAŁYSTOK.

W odpowiedzi na artykuł pt. „Dziesięć kłopotów Cisówki" („Niwa" z 24 IV 1977 r.), w którym dziesiąty kłopot Cisówki dotyczy nieprawidłowego oświetlenia ulicznego, Zakład Energetyczny Rejon Białystok uprzejmie wyjaśnia, że Posterunek Energetyczny w Gródku z przyczyn obiektywnych nie był w stanie naprawić oświetlenie uliczne we wsi Cisówka. W dniu 22 czerwca br. monterzy z Posterunku Energetycznego w Gródku naprawili oświetlenie uliczne we wsi Cisówka i obecnie oświetlenie funkcjonuje normalnie.

Za zaistniałe niedociągnięcie serdecznie przepraszamy mieszkańców wsi Cisówka.

Rejon Energetyczny Białystok
Kierownik Rejonu
inż. Sergiusz Plewa

**Да заметкі „ЧАМУ?“, „Ніва“ № 19/1106 ад 8 мая 1977 года.**

**Адказвае:** PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ W BIAŁYMSTOKU ODDZIAŁ OSOBOWY W BIAŁYMSTOKU.

Odpowiadając na notatkę prasową z 19/1106 numeru tygodnika „Niwa" z dnia 8 maja 1977 r. w sprawie niewłaściwej nazwy przystanku autobusowego zlokalizowanego przy skrzyżowaniu dróg z Eliaszuk do Lewkowa i z Lewkowa do Michnówki, noszącego nazwę Kapitańszczyzna — Oddział Osobowy PKS w Białymstoku informuje, że z chwilą wprowadzenia nowego rozkładu jazdy autobusów na lata 1978—79 przystanek ten będzie nosił nazwę Michnówka.

Z-ca Dyrektora
d/s technicznych
Oddz. Osobowego PKS
w Białymstoku
inż. Antoni Lewicki

**Да заметкі „ПІСЬМО АД ЦЭЛАЙ ВЁСКІ“, „Ніва“ № 18/1105 ад 1 мая 1977 года.**

**Адказвае:** PRZEDSIĘBIORSTWO PAŃSTWOWEJ KOMUNIKACJI SAMOCHODOWEJ W BIAŁYMSTOKU.

Odpowiadając na notatkę prasową z 18/1105 numeru tygodnika „Niwa", która dotyczy przeniesienia przystanku autobusowego PKS we wsi Lewkowo Stare — Oddział Osobowy PKS w Białymstoku informuje, że przystanek był przeniesiony na wniosek Urzędu Gminnego w Narewce i Zakładu Ceramiki Budowlanej w Lewkowie Starym po uprzednim wyznaczeniu miejsca przez komisję lokalizacyjną, w skład której między innymi wchodzili przedstawiciele KW MO w Białymstoku i Zarządu Dróg Publicznych w Białymstoku, która ustawiła go przy cegielni tj. w odległości około 400 m od poprzedniego przystanku.

Z-ca Dyrektora d/s Przewozów
Oddziału Osobowego PKS w Białymstoku
Ryszard Lider

**Да артыкула „НЕСУМЛЕННАСЦЬ КЛЯШЧЭЛЕЎСКІХ ГАНДЛЁЎЦАЎ“, „Ніва“ № 22/1109 ад 29 мая 1977 года.**

**Адказвае:** WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH „SAMOPOMOC CHŁOPSKA" ZAKŁAD OBROTU ARTYKUŁAMI PRZEMYSŁOWYMI I SPOŻYWCZYMI W BIAŁYMSTOKU.

W związku z notatką prasową w tygodniku „Niwa" z dnia 29 maja 1977 roku w sprawie skupu butelek przez sklep w Kuzawie informuje:

— Zarząd GS w Kleszczelach przeprowadził rozmowę w dniu 16 czerwca br. ze sklepową w Kuzawie i zobowiązał ją na piśmie do prowadzenia skupu butelek pod groźbą wyciągnięcia wniosków służbowych.

— Pismem z dnia 23 VI 1977 r. GS Kleszczele wyjaśnia, że przerwanie skupu było okresowe ze względu na nierytmiczny odbiór ze sklepu pustych opakowań przez dostawcę STW w Hajnówce.

Dyrektor
inż. G. Prokopczyk

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

